# Плённай працы і цяпла ў вашым доме!

ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# НАСТАЎНІЦКАЯ газета

№ 100(5282)
Субота,
1 верасня
2001 года

Выходзіць
з 20 снежня
1945 года

Кошт
у розніцу —
80 руб.

## Шаноўныя калегі! Дарагія вучні, навучэнцы і студэнты! Паважаныя бацькі!

*Шчыра віншую вас з Днём ведаў, з пачаткам новага навучальнага года. Пасля цёплага лета для кожнага з нас, хто мае самае непасрэднае ці апасродкаванае дачыненне да школы, з гэтага дня прыбавіцца шмат клопатаў і прыемных турбот. У настаўнікаў і выкладчыкаў — пра тых, хто ўпершыню пераступіў парог школы, пра вучняў, доўгачаканыя галасы якіх сёння запоўнілі ветлівыя і прыбраныя класы, навучэнцаў прафтэхвучылішчаў і каледжаў, студэнтаў, што выбралі свой прафесійны шлях. У мам і татаў — пра сыноў і дачок, якія працягваюць вечную повязь часу — набыцця ведаў. Адным словам, усе мы павінны адчуваць бацькоўскую адказнасць за будучае нашых пакаленняў, нашай сінявокай Беларусі. Адсюль такія шчырыя і руплівыя намаганні пра тое, каб у класе, аўдыторыі было ўтульна і цёпла, каб мацнелі, гартаваліся розум, пачуцці і душы цяперашніх і будучых грамадзян нашай Радзімы.*

*Наш час няўмольна патрабуе перамен у адукацыі не толькі ў агульнаадукацыйнай школе, а і ў вучылішчы, тэхнікуме, у ВНУ. Гэта яскрава засведчвае жыццё, вымагаецца інтэлектуальным пошукам сучаснага грамадства. Рэформа школы набыла рэальнае ўвасабленне.*

*Нягледзячы на нястачу і слату, сённяшняя школа выйшла на новыя рубяжы, годна нясе сцяг адукацыйных перамен, апрабіруе і ажыццяўляе намечанае.*

*Дарагія калегі! Краіна ганарыцца вашым непрыкметным і сціплым подзвігам, які вы штодня здзяйсняеце ў школьных і студэнцкіх аўдыторыях. Вы запальваеце нязгасны агонь ведаў і пазнання, дапамагаеце дзяржаве рабіць важныя крокі на шляху сацыяльнага і эканамічнага прагрэсу.*

*Перакананы і ўпэўнены, што і Прэзідэнт, і ўрад нашай краіны бачаць у вас, паважаныя педагогі, магутны падмурак дабрабыту беларускага народа, які ладзіць нам з вамі ўжо сёння — сваёй няўрымслівасцю, энергічнасцю і адданасцю ў працы. Гэта было падкрэслена на адным з апошніх пасяджэнняў урада кіраўніком краіны А.Р.Лукашэнкам.*

*Прыемна адчуваць, шаноўныя калегі, што беларускі вопыт школьных пераўладкаванняў вывучаецца на арэне міжнароднага жыцця. Ваш прафесіяналізм, высокая чалавечая годнасць, майстэрства — выразнік плёну педагагічнай навукі і практыкі, будучыні адукацыі XXI стагоддзя. А яно, упэўнены, будзе стагоддзем, галоўнай каштоўнасцю якога стане высокаадукаваны чалавек.*

*Вяхой адукацыйнага жыцця рэспублікі закліканы стаць II з'езд настаўнікаў, які мае адбыцца ў лістападзе 2001 года. На ім педагагічная грамадскасць краіны падвядзе вынікі ажыццяўлення намечанага, зверыць з перадавым сусветным вопытам свае крокі і вызначыць перспектывы далейшага развіцця адукацыі на Беларусі.*

*Дарагія навучэнцы! Жадаю вам моцы ў авалоданні скарбніцай чалавечага існавання — традыцыйнымі ведамі і інтэлектуальнымі набыткамі сучаснікаў, натхнення, цікаўнасці і заўзятасці ў навучанні, багатага школьнага і студэнцкага жыцця. Няхай будзе шчаслівым і плённым падарожжа ў краіну ведаў.*

*Шаноўныя бацькі! Будзьце цярплівымі да сваіх дзяцей, мудра стаўцеся да іх патрэб і цікавасцей, спрыяйце іх інтэлектуальнаму росту, беражыце і вучыце берагчы здароўе. Мы з вамі маем адну мэту — каб нашы дзеці выраслі здаровымі, разумнымі, мужнымі, каб маглі зрабіць для грамадства, а значыць і для сябе, больш за папярэднія пакаленні: жыць заможна, у дабрабыце і згодзе.*

*Паважаныя калегі, дарагія сябры! Рады жадаць вам моцнага здароўя, плённай працы, шчаслівага сямейнага ўладкавання, утульнасці і цяпла ў вашым доме і, канешне, удзячных і ветлівых навучэнцаў, студэнтаў і слухачоў.*

**З прыязнасцю і добрымі пачуццямі Міністр адукацыі Рэспублікі Беларусь Васіль СТРАЖАЎ.**





## У Новай Папіне — новая школа

Напярэдадні Дня ведаў у вёсцы Новая Папіна (Драгічынскі раён) адчыніла дзверы новая школа, парог якой сёння пераступілі 250 вучняў.

На мітынгу, прысвечаным гэтай сапраўды значнай і, на жаль, рэдкай па сённяшнім часе падзеі, часта гучалі іншасказанні "палац", "церамок"... Будынак сапраўды на палац і церам падобны. Перш за ўсё адмысловай архітэктурай, чырвонымі (з металачарапіцы) дахамі і дашкамі з маляўнічымі вежамі...

Сапраўды — школа XXI стагоддзя. Роўнай ёй па шмат якіх параметрах няма пакуль ні ў вобласці, ні ў Беларусі. Асабліва велічна глядзіцца яна на фоне размешчанага насупраць прыземістага старога будынка (да ўсяго, нетыпавога), які, як патлумачыў дырэктар сярэдняй школы Аляксандр Тынковіч, ужо і рамонту не падлягае. Неўзабаве на гэтым месцы зашумяць дрэвы, якія дапоўняць рукатворную прыгажосць.

Менш за ўсё на мітынгу гаварылася пра цяжкасці, якімі суправаджалася будаўніцтва. І гэта зразумела — свята, ды якое! Між тым быў момант, калі будоўлю ледзьве не закансервавалі. Справа ў тым, што першапачаткова аб'ект фінансаваўся Мінфінам рэспублікі. І вось у 1998-м з-за недахопу сродкаў работы на ім вырашана было прыпыніць. Кіраўнік раёна Сяргей Паўлавіч Мамацюк змірыцца з гэтым не пажадаў і ў рэшце рэшт дамогся, каб фінансаванне ўзяла на сябе вобласць. Як заўважылі будаўнікі, пры спрыяльных умовах яны затрацілі б на ўвядзенне 14 месяцаў. На самай жа справе працаваць давялося пяць гадоў. На будаўніцтва выдаткавана больш за паўтара мільёна долараў. У гэтай жа суме — забеспячэнне школы сучасным абсталяваннем для майстэрняў і харчблока, спартзалы, камп'ютэрнага класа, а таксама — наглядным дапаможнікамі. Акрамя таго, госці, што прыбылі на наваселле, падаравалі вучням сучасны лінгафонны кабінет, тэлевізар, відэамагнітафон, музычны цэнтр, ксеракс...

Пасля таго, як ветэран педагагічнай працы Галіна Васільеўна Калганка павесіла на дзверы новай навучальнай установы сімвалічны вянок, пачаўся агляд светлых, прасторных кабінетаў, тут жа, ва ўтульнай актавай зале, педагогі правялі раённую жнівеньскуюнараду.

**Анатоль КРЭЙДЗІЧ.**

НА ЗДЫМКАХ: **начальнік** будаўнічага ўпраўлення № 2 Мікалай Мемех (злева) перадае **сімвалічны ключ ад школы яе дырэктару Аляксандру Тынковічу; першы раз у першы клас прыйшла за ведамі Марына Гачыкян; новы будынак школы.**

**Фота Сцяпана СУПРУНА.**



**Цэнтральны камітэт Беларускага прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі дасылае шчырыя віншаванні з новым навучальным годам настаўнікам, выкладчыкам, усім работнікам адукацыі.**

## Шаноўныя калегі!

Вашы адказнасць і самаадданасць абранай прафесіі дазваляюць школе нават ва ўмовах недастатковага фінансавання працаваць вынікова і стабільна, спрыяюць забеспячэнню сацыяльнага міру і пакою ў грамадстве.

Таму сістэма адукацыі мае ўсе падставы на асаблівае стаўленне дзяржавы, улады да яе матэрыяльнага становішча. Але, на жаль, у апошнія гады галіноваму прафсаюзу прыходзіцца на ўсіх узроўнях уздымаць голас у абарону сацыяльнага статуса педагога і годнай аплаты яго працы, выступаць супраць хранічных затрымак і без таго сціплых настаўніцкіх заробкаў.

Наша адзінства і арганізаванасць, ваша падтрымка справядлівых патрабаванняў прафсаюза дазваляюць нам прынцыпова і важка абараняць інтарэсы галіны, яе работнікаў, спадзявацца на лепшае. Хай жа новы навучальны год, які азнаменаваны маючым адбыцца II з'ездам настаўнікаў рэспублікі і прыняццем новага закона аб адукацыі, стане годам добрых перамен у настаўніцкім дабрабыце.

Жадаю усім, хто аддае свае розум і сэрца справе выхавання і адукацыі моладзі, творчага натхнення, прафесійнага задавальнення і плёну ў працы.

Шчаслівай вам долі і моцнага здароўя, добрага жыццёвага уладкавання!

Дабра і міру вашаму дому.

**З павагай Старшыня Цэнтральнага камітэта Беларускага прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі Тамара ЧОБАТАВА.**

## Спажывецкія веды — на факультатыве

***З новага навучальнага года ў 36 школах Беларусі (8-9 класы) уводзіцца новы факультатыўны курс "Асновы спажывецкіх ведаў". Ініцыіравала яго "Беларуская таварыства абароны спажыўцоў" пры садзейнічанні Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь.***

Факультатыў будзе спрыяць павышэнню прававой спажывецкай культуры моладзі, якая ўступае ў самастойнае жыццё. Спажывец, дасведчаны ў сваіх правах, з'яўляецца каталізатарам развіцця цывілізаваных рынкавых адносін. Побач з вытворцам і гандляром (выканаўцам паслуг) ён стане паўнамоцным удзельнікам спажывецкага рынку, створанага якраз для задавальнення ягоных жа запытаў.

Так, у Маладзечне гэтая грамадская арганізацыя прыняла канкрэтныя практычныя захады, каб названы курс быў уключаны ў якасці паўнамоцнага прадмета у вучэбны расклад васьмі школ. У іншых навучальных установах горада гэты курс будзе асвятляцца на пазашкольных занятках.

Таварыства парупілася, каб быў выдадзены і разасланы па школах дапаможнік "Асновы спажывецкіх ведаў", загадзя (двойчы — у маі і жніўні) праведзены заняткі з выкладчыкамі, дзе ўводзіцца выкладанне новага курса. У іх прынялі ўдзел прадстаўнікі Міністэрства адукацыі, Міністэрства аховы здароўя, Дзяржстандарту Беларусі, Інстытута сучасных ведаў.

**Наш кар.**

Кароткае інтэрв'ю

## Жаданне вучыць і вучыцца

***Новы навучальны год — заўсёды новыя маладыя настаўнікі. Хвалявання ў іх дастаткова: як гаворыцца, першы раз у першы клас. Кожнага з іх чакае школа, вядомая і невядомая. Цікава, а як яны ўяўляюць школу дваццаць першага стагоддзя? Якімі павінны быць настаўнік і вучань у гэтай школе? З такімі пытаннямі я і звярнулася да маладых настаўнікаў.***

**Дзіна Анатольеўна Капытава, настаўніца малявання сярэдняй школы № 22 Мінска:**

— Настаўнік павінен быць прафесіяналам сваёй справы, каб даць вучню сапраўды трывалыя веды. Вучні бываюць розныя, але ўсе яны — вучні, таму павінны набываць веды. Я, як настаўнік малявання, сваёй мэтай бачу зацікавіць дзіця мастацтвам і каб гэтую зацікаўленасць яно захоўвала як мага больш. Школа ж дваццаць першага стагоддзя павінна развіваць гарманічную асобу.

**Наталля Аляксандраўна Снегірова, настаўніца беларускай мовы і літаратуры і польскай мовы гімназіі № 7 Мінска:**

— Школа дваццаць першага стагоддзя... Перш за ўсё ў гэтай школе павінен быць рэалізаваны гуманны падыход да адукацыі і развіцця асобы, які, на жаль, адсутнічае ў нашых школах. Дзіця ў школе падвяргаецца агрэсіі з боку настаўніка: яго проста нагружаюць ведамі. Настаўнік жа павінен быць хаця б крыху больш адукаваным за таго настаўніка, якога мы бачым зараз, а вучань — карэктным.

**Таццяна Яўгенаўна Ладур, настаўніца беларускай мовы і літаратуры і геаграфіі гімназіі № 7 Мінска:**

— Школа дваццаць першага стагоддзя, на маю думку, павінна быць такой, якую ў свой час скончыла я — справядлівай, гуманнай, дзе паважаюць асобу кожнага вучня. Настаўнік і вучань павінны працаваць разам ва ўзаемапавазе і ўзаемапаразуменні.

*Вось такія меркаванні настаўнікаў, якім і ствараць новую школу. Трэба сказаць, што цяжкасцяў на іх шляху будзе дастаткова, але побач з імі будуць крочыць ужо вопытныя педагогі, якія таксама падзяліліся сваімі думкамі наконт школы дваццаць першага стагоддзя.*

**Валянціна Віктараўна Басава, настаўніца рускай мовы і літаратуры сярэдняй школы № 182 Мінска:**

— Хачу бачыць школу зусім не такой, якая яна ёсць сёння. Калі казаць пра яе мадэль, то самае галоўнае — дзіця павінна ў школу ісці з задавальненнем. Аб'ём ведаў — не асноўнае: людзі вучацца ўсё жыццё. Вельмі важна, каб у душы дзіцяці жылі дабро і любоў і каб іх яно сустракала ў школе заўсёды. Настаўнік — той чалавек, які, нягледзячы ні на што, любіць сваіх вучняў, калі іншы раз нават бацькам на гэта часу не хапае. А вучня хацелася б мець такога, каб, гледзячы на яго, не знікала вера ў шчаслівае будучае маладога пакалення і адпаведна — нашай краіны.

**Мікалай Уладзіміравіч Шэндзераў, дырэктар сярэдняй школы № 86 Мінска:**

— Якім павінен быць вучань? У вучня павінна быць жаданне вучыцца, а ў настаўніка — жаданне вучыць. Школа павінна быць для дзіцяці, а не дзіця — для школы.

**Людміла Сцяпанаўна Мялік, настаўніца музыкі і сусветнай мастацкай культуры сярэдняй школы № 133 Мінска:**

— Неабходна, каб вучань у школе меў магчымасць не толькі выхоўвацца і набываць веды, але і жыць нармальным жыццём, як у любым іншым асяроддзі. Сучасная школа павінна імкнуцца да наладжвання міжнародных сувязей з іншымі агульнаадукацыйнымі ўстановамі, каб вучні і настаўнікі мелі доступ да інфармацыі любога напрамку.

**Вольга ДУБОЎСКАЯ.**

Прэзентацыі

## Падручнікі ёсць! Галоўнае — яны адбыліся

***Так у сваім выступленні падчас прэзентацыі падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў для 4-га класа агульнаадукацыйнай школы з 12-гадовым тэрмінам навучання заявіла, прадстаўляючы прысутным падручнік "Нямецкая мова" для 4-га класа з беларускай і рускай мовамі навучання, яго аўтар — прафесар кафедры методык Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта Антаніна Будзько.***

Лічу, згодна з уступным словам вядучага прэзентацыі Уладзіміра Лістраценкі, намесніка дырэктара Навукова-метадычнага цэнтра вучэбнай кнігі і сродкаў навучання, у жыцці агульнаадукацыйнай школы адбылася значная падзея. Яе адметнасць у тым, што ўпершыню заяўлены падручнікі і вучэбныя дапаможнікі для агульнаадукацыйнай школы рэфармаванага тыпу — з 12-гадовым тэрмінам навучання.

Намеснік дырэктара Нацыянальнага інстытута адукацыі Алег Лісейчыкаў засяродзіў увагу прысутных на тым, што новым падручнікам і вучэбным дапаможнікам для чацвертакласнікаў 12-гадовай школы папярэднічала самая карпатлівая праца, скрупулёзная падрыхтоўка. Алег Еўдакімавіч у прыватнасці зазначыў, што гэтыя кнігі ўжо прайшлі апрабацыю ў школах рэспублікі.

Пры канчатковай іх дапрацоўцы былі ўлічаны заўвагі настаўнікаў, метадыстаў, бацькоў вучняў і ўвогуле, так бы мовіць, шырокай школьнай грамадскасці. Аўтары падручнікаў, на яго думку, пры іх напісанні скарысталіся такімі паняццямі як фундаменталізацыя і гуманітарызацыя адукацыі, практычнымі і навуковымі напрацоўкамі школы, арганізацыі адукацыі яшчэ ў савецкія часы.

Алег Еўдакімавіч падкрэліў: ёсць магчымасць гаварыць пра беларускі феномен па стварэнні падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў як найлепш адпаведных і сугучных новай рэфармаванай школе. Пакуль нідзе на тэрыторыі краін, якія ўваходзяць у склад СНД, няма такой практыкі стварэння, апрабацыі падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў, як у Рэспубліцы Беларусь. Тут грунтоўна ўлічаны эвалюцыйны падыход да рэфармавання школы.

Тэарэтычныя выкладкі Алега Лісейчыкава праілюстраваў адзін з аўтараў падручніка "Беларуская мова" для 4-га класа агульнаадукацыйнай школы з беларускай мовай навучання кандыдат філалагічных навук, намеснік дэкана філфака БДУ Віктар Красней (ён і ягоны сааўтар Яўген Лаўрэль стварылі падручнік, які летась быў у ліку лепшых, набыў пэўную вядомасць). Пры стварэнні падручніка аўтары зыходзілі з таго, што чацвёртакласнікі павінны быць падрыхтаванымі да асэнсавання пэўных (даступных іх узросту) рэаліяў і паняццяў. Віктар Пятровіч зазначыў, што беларуская мова — гэта своеасаблівая з'ява, пры дапамозе якой вучань успрымае адметнасць навакольнага асяроддзя. На яго думку, яна з'яўляецца не толькі сродкам узаемін, але і ўтрымлівае духоўнае святло, самабытнасць беларусаў як нацыі. Нельга, скажам, растлумачыць, чаму па-нашаму не "август", а "жнівень"...

У адрозненне ад першых варыянтаў падручніка, сённяшні імкнецца дэманстраваць адзінства, сугучча выхавання і навучання.

Прыемныя ўражанні пакінула знаёмства з падручнікам "Беларуская літаратура". Аўтар, кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры беларусазнаўства Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта Зоя Мельнікава, якая "абараняла" яго на прэзентацыі, здолела абгрунтаваць як аб'ём так і змест кнігі. У падручніку, удала адаптаваным да праграмы, звернута ўвага як на асновы літаратурнай адукацыі, так і на моўную культуру.

Прысутныя — настаўнікі, навукоўцы, супрацоўнікі выдавецтваў — цёпла ўспрынялі расказ прафесара кафедры методыкі Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта Антаніны Будзько, аўтара падручніка "Нямецкая мова".

Антаніна Піліпаўна скарысталася паслугамі недзяржаўнага выдавецтва "Кавалер". Яна знайшла тут падрымку, упэўнілася ў кампетэнцыі, дасканалым веданні выдавецкай справы, а галоўнае — у жаданні, уменні выдаць падручнік, так патрэбны і прыдатны для школы рэфармаванага тыпу.

Дырэктар выдавецтва Канстанцін Хацяноўскі паведаміў вашаму карэспандэнту, што яно і надалей будзе супрацоўнічаць з творчымі аўтарамі, спрыяць выпуску падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў для школ краіны...

Часам прэзентацыя набывала форму дыскусіі, на якой ішла зацікаўленая размова: якім па форме, змесце павінен быць падручнік сённяшняй школы.

Актыўны ўдзел (з выказваннем прынцыповых крытычных заўваг, ацэнак, прапаноў) у правядзенні прэзентацыі прынялі вучоныя-гісторыкі Уладзімір Кошалеў і Эдуард Загарульскі, аўтары падручнікаў Валянціна Дыніч, Тамара Мушынская, Святлана Каратай, Андрэй Хіліmановіч, супрацоўнікі выдавецтваў Уладзімір Патапаў, Ала Дзераш, Ларыса Мінько, Кацярына Гарэлік, супрацоўнікі Навукова-метадычнага цэнтра.

Падсумоўваючы вынікі прэзентацыі, Уладзімір Лістраценка зазначыў, што нават стварэнне стабільнага падручніка не выключае ўсё ж пэўнага ўдасканалення...

У ўрэшце Уладзімір Аляксеевіч таксама адзначыў, што выпуск і прэзентацыя падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў для 4-га класа агульнаадукацыйнай школы з 12-гадовым тэрмінам навучання засведчылі: наша дзяржава валодае пэўным патэнцыялам і магчымасцямі па падрыхтоўцы стабільных, добротных па форме кніг для навучальных устаноў адукацыі.

**Наш кар.**

